# За Новы год

Новы год ступіў на парог нашай хаты. Так як мы з табой, чытач, людзі з традыцыямі, прывітаем наш Новы год традыцыйнай чаркай, поўнай па берагі. На сэрцы нам лёгка і радасна. Верым, што Новы год будзе лепшы ад старога, бо ўсё новае лепшае ад старога.

Ён уважлівы, слухае, што мы яму скажам, няхай слухае. А мы з табой вып'ем за яго чарку залацістага віна. Вып'ем за тое, каб увесь год мы не трывожыліся словам «вайна», каб гэтае слова знайшло сваё месца ў слоўніку архаічных слоў, каб людзі, якія ў сваіх руках трымаюць лёс зямлі, ва ўсёй сваёй дзейнасці мелі на ўвазе і нас, цябе і мяне, простых людзей, якіх многа ў кожным краі;

за тое, каб праект СССР аб усеагульным раззбраенні стаўся фактам у гэтым годзе;

за тое, каб сустрэча кіраўнікоў вялікіх дзяржаў, якая адбудзецца вясной новага года, прынесла нам многа радасці.

Вып'ем з табой і за тое, каб наша краіна — Народная Польшча ўзбагацела ў новым годзе, а з ёю і мы;

за тое, каб праца людзей усіх прафесій была больш прадукцыйнай, каб загінула бракаробства, бюракратызм, спекулянства, ашуканства;

за тое, каб без падтрымкі засталіся людзі, якія для ўласнага «Я» снуюць інтрыгі, прыкрываючы свой сапраўдны воблік напышлівымі словамі;

за тое, каб у новым годзе мы (не толькі я і ты, але ўсе ў краіне) менш гаварылі, а больш рабілі, каб менш было паседжанняў, пасля якіх словы застаюцца толькі словамі;

за тое, каб усе нашы сародзічы зразумелі велічнасць перамен, якія прайшла і праходзіць наша краіна па шляху у будучыню, каб лепш разумелі некаторыя недасканаласці нашага жыцця, каб менш было беспадстаўных, часам агідных нараканняў і папрокаў.

Вып'ем і за нашыя больш асабістыя справы. За тое, каб у гэтым годзе не хварэлі нашыя дзеці, каб раслі яны разумнымі;

за тое, каб мы самі былі разумнымі і разумна выхоўвалі сваіх дзяцей, былі для іх добрым прыкладам;

за тое, каб у нашых сем'ях панаваў спакой, радасць, згоднасць, мір.

Урэшце, вып'ем за тое, каб усе, хто не ведае радасці творчага жыцця, у новым годзе пазналі яе, хто адзінокі — знайшоў сабе сябра, хто не кахае — пакахаў, хто сумуе — развесяліўся, каму цяжка на сэрцы — знайшоў сілы скінуць цяжар.

Неба зімовае, яснае, падаюць мяккія сняжынкі, з горкі з вясёлым крыкам з'язджаюць дзеці, снуюцца працавітыя людзі — прыемна быць адным з іх.

На парозе нашай хаты стаіць Новы год. Твар у яго вясёлы. Знаць нашы жаданні яму да спадобы. Дык вып'ем сваё поўныя чаркі, гаварыш! За Новы год!

Cena 60 gr. Цана 60 гр.

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 1 (201) БЕЛАСТОК 3 СТУДЗЕНЯ 1960 ГОДА ГОД V



ЛЕС, СНЕГ І СОННА.

З ЖЫЦЦЯ МОЛАДЗІ

# БОЛЬШ САМАСТОЙНАСЦІ

— Як выглядзіць справа з Адэнауэрам? — Ці сапраўды можа ён выклікаць вайну?

— Чаму цяпер так цяжка атрымаць работу ў горадзе? Ці назаўсёды маем сядзець у гэтай вёсцы?

— Гаворыцца, што вёска абавязана падняць на вышэйшы ўзровень сельгасвытворчасць, але, ці ў нашай вёсцы, грамадзе, ёсць такая магчымасць?

— Гавораць, што камбайны зусім не прыгодны да працы на нашых палях. Ці гэта праўда?

— Зіма прыйшла. Доўгія вечары. А ў вёсцы сумна... Як пражыць?

*

Сход гуртка ЗМВ ў Дубічах Царкоўных не адбыўся. Вышэй упамянутыя пытанні пасыпаліся ў час гутаркі з некалькі членамі ЗМВ, якія зайшлі ў будынак мясцовай школы. Не спатрэбілася цягнуць іх за язык. Пыталіся самі. Справы, якія паднялі тут, хвалявалі іх ужо даўно. Гутарылі на гэтыя тэмы ў хатах, у час сустрэч з таварышамі, у полі падчас перакура.

Апошні сход гуртка ЗМВ ў Дубічах Царкоўных адбыўся недзе аж у чэрвені. Зрэшты, які ж гэта быў сход, калі прысутныя абмежаваліся толькі да выбару новага праўлення гуртка і агульнай, нікога і да нічога не забавязваючай пастановы, што трэба распачаць працу ў гуртку. Праўду кажучы, то прадстаўнік павятовага праўлення ЗМВ, які прысутнічаў на сходзе, ўспамянуў нешта аб патрэбе прыняцця кастрычніцкіх абавязацельстваў. Але ніхто аб гэтым паважна не думаў. Так нічым і закончылася яго прапанова. Гурток далей не

(Працяг на стар 4)

Усім нашым чытачам складаем сардэчныя навагоднія і сьвяточныя пажаданні.

Рэдакцыя

